РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА: БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

# ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ

«ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ» на 8-мі старонках

Free Hlybokaye

*Дык жа ўцям! На Беларусі – беларусы жывуць!*
*Янка Купала.*

Жыве Беларусь!

Wolne Glebokie

Выдаецца са снежня 1994 года *№17-18 (49-50), жнівень, 2000 года *Кошт па дамове



## ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ
### УСЕБЕЛАРУСКІ З'ЕЗД
### 2000

**29 ліпеня ў мінскім Палацы культуры «Сукно» адбыўся Ўсебеларускі З`езд за незалежнасць. Глыбоччыну прадстаўлялі пяць дэлегатаў: Г. Кардзяёнак, З. Курцэвіч, У. Скрабатун, З. Лупач і А. Шэлепень.**

З`езд пачаўся з уступнага слова паэта Генадзя Бураўкіна. Пасля выбрання кіруючых органаў З`езда з дакладамі выступілі Р. Гарэцкі, А.Грыцкевіч, Н. Гілевіч, М. Чыгір, С. Грушавы, П. Казлоўскі, А. Кароль, Р. Барадулін.

Напрыканцы З`езда ва ўрачыстай абстаноўцы быў прыняты Акт Незалежнасці Беларусі.

На жаль, мы абходзімся кароткай анатацыяй З`езда, які праходзіў у перапоўненай зале. Па незразумелых прычынах арганізатары не пралічылі тую сітуацыю, што прыедзе на некалькі сотняў дэлегатаў больш, чым можа змясціць памяшканне. Вельмі прыкра канстатаваць, але гэтых некалькі соцень дэлегатаў не прапусцілі ў залу ў мэтах пажарнай бяспекі. За «бортам» апынуліся дэлегацыі з Пастаў, Глыбокага, Докшыц, Полацка, Гродна, Светлагорска... Фактычна ў зале знаходзіліся прадстаўнікі Мінска, якім не трэба было дабірацца з правінцыі на цягніках і аўтобусах... Тут каментарый адзіны: «Хацелася, як лепш, а атрымалася, як заўсёды»

## КОРАТКА

□ З 19 ліпеня павысіліся.цэны на нафтапрадукты. Так, кошт рэалізацыі 1 літра аўтабензіну А-76 складзе 263 рублі, АІ-92-358, АІ-95-422, дызпаліва-242 рублі.

□ З 1500 апытаных рэспандэнтаў, якія жывуць у Беларусі, 22% адказалі, што «хутчэй задаволены» працай Лукашэнкі на пасадзе кіраўніка дзяржавы. 45% «часткова задаволены, часткова не», 32% «хутчэй незадаволены» тым, як Лукашэнка кіраваў краінай.

□ У Індыі 4-гадовая дзяўчынка выйшла замуж за ... сабаку. Бацька дзяўчынкі паслухаў астролага, які гаварыў, што такое вяселле выратуе хворую дзяўчынку ад злых духаў, якія яе пакінуць і пяройдуць у сабаку. На вяселлі прысутнічала каля двухсот жыхароў вёскі.

### Заява пасольства ЗША ў Беларусі

Злучаныя Штаты Амерыкі сур`ёзна заклапочаны знікненнем аператара Грамадскага расійскага тэлебачання Д. Завадскага «ў свеце іншых знікненняў у Беларусі, якія маюць палітычную афарбоўку». «Знікненне Завадскага,-- гаворыцца ў заяве прэс-сакратара пасольства ЗША ў Беларусі Р. Баучара,-- значна ўзмацняе нашу занепакоенасць наконт праследу журналістаў, абмежавання свабоды выказванняў і атмасферай страху. якая расце ў Беларусі...

### Цуды ў хаціне

Жыхары аднаго з прыватных дамоў Бабруйска (Магілёўская вобласць) у ноч з 13 на 14 ліпеня назіралі неверагодныя з`явы. Каля 10 гадзін вечара без прычын у хаце пачаў загарацца і тухнуць свет, хлопалі дзверы, разрываліся падушкі, рухалася мэбля, зверху лілася вада, загараліся шторы. Спецыялісты аварыйна-выратавальнай службы таксама сталі сведкамі неверагодных з`яў. На наступны дзень усё паўтарылася. У час абраду, які рабіў запрошаны мясцовы святар, загарэліся шторы. Тлумачэнняў здарэнню пакуль няма.

### Як мы жывём?

Каля 43% працуючых у Беларусі маюць заработную плату ніжэй мінімальнага спажывецкага бюджэту,які складае зараз 39,9 тысяч рублёў. 23% працуючых маюць заробкі ніжэй пражытковага мінімума, які складае 26 тысяч рублёў. Такое становішча ў работнікаў сацыяльнага забеспячэння, сельскай гаспадаркі, мастацтва, адукацыі, аховы здароў`я. Па стану на 30 чэрвеня, запазычанасць па зарплаце па рэспубліцы складала 22,7 млрд. рублёў. Амаль палова запазычанасці прыходзіцца на май.

*У. Канстанцінаў*

### Чорная ночка купальская

Вельмі сумна завяршылася традыцыйная масавая выпіўка ў час святкаваня Купалля каля аднаго з азёр у Браслаўскім раёне. Работніку Друйскага дзіцячага дома прыйшлося літаральна цягнуць дадому сваю моцна п`яную 35-гадовую сужыцельку. Па дарозе ён «выхоўваў» жанчыну кулакамі. Раніцой у выніку пералому трох рэбраў і разрыву ныркі няшчасная памерла.

Кожны тыдзень, дарэчы, на Віцебшчыне па фактах боек, здзекаў над асобай узбуджаецца па 30-40 падобных крымінальных спраў. У выніку страшнага падзення нораваў за першае паўгоддзе ў вобласці было забіта 108 дарослых і 6 дзяцей, а яшчэ 29 суайчыннікаў загінулі ад атрыманых цяжкіх траўм.

*Ул. Шык*

## ГЛЫБОКАЕ `2000



## Беларусь па дадзеных Арганізацыі Аб`яднаных Нацый

**Беларусь -- лідэр у СНГ па колькасці злачынстваў на 100 тысяч насельніцтва-- 1161.**

Па колькасці зняволеных, якія знаходзяцца ў турмах, на душу насельніцтва наша краіна ўваходзіць у тройку сусветных лідэраў -- 477 чалавек на 100 тысяч жыхароў. Першае месца ў гэтым плане займае Расія. 22 выпадкі дзіцячай смяротнасці на 100 тысяч беларусаў прыходзіцца ў нас і гэты паказчык у параўнанні з 1970-ым годам не зменшыўся. У найбольш развітых краінах ён адпавядае лічбам 4-8. Кожны чацвёрты наш грамадзінін, які нарадзіўся ў 1998 годзе, да 60 год не дажыве. Беларусь уваходзіць у лік 17 краін свету, у якіх да 2015 года колькасць насельніцтва зменшыцца.

*По матэрыялах газеты «Віцебскі кур`ер».*

## Новы старшыня тэлерадаёкампаніі

**Былы старшыня тэлерадыёкампаніі Рыгор Кісель назначаны паслом Беларусі ў Румыніі. На яго месца прызначаны лідэр Камуністычнай партыі Беларусі (КПБ) Віктар Чыкін, які дагэтуль працаваў намеснікам старшыні гарвыканкама.**

Што назначаны па перакананнях камуніст -- вядома. Не пісалі ў дзяржаўным друку чамусьці якую ВНУ скончыў уноў прызначаны старшыня, якія працы па тэле-, радыёжурналістыцы мае. А можа галоўнае цяпер пры прызначэнні на пасаду не веды, не адукацыя, не вопыт, а партыйная прыналежнасць і моцная ідэалагічная «падкоўка»? Даўно вядома, што партыйцы-камуністы спецыялісты надта «шырокага» профілю. А мы яшчэ дзівімся: чаму дагэтуль так дрэнна жывём?

*М. Пяскоўскі*

## Прышліце фельчара на вёску

**У разгар перабудовы вопытам медабслугоўвання насельніцтва Докшыцкага раёна цікавіўся нават саюзны міністр аховы здароўя Я. Чазаў. Як напамінак аб тым важным візіце-асфальтавая дарога, хутка пракладзеная да адной з бальніц.**

З таго часу шмат вады сцякло, але праблемы медабслугоўвання разам з ёй не сплылі, засталіся, размножыліся з прыходам у краіну «дэмакратыі». Праблема недахопу грошай на развіццё медустаноў дапаўняецца праблемай кадравай. Няма каму ўзначаліць Бярозкаўскую ўчастковую бальніцу, адсутнічаюць фельчары у Слабадскім, Тумілавіцкім, Бераснёўскім ФАПах. У самім цэнтры не хапае педыятараў і тэрапеўтаў, няма ўрача-акуліста, патрабуюцца неўрапатолагі, рэнтгенолагі, анестэзіёлагі і іншыя спецыялісты. Усё гэта адмоўна адбіваецца на здароўі насельніцтва. Часта хварэюць дзеці, 124 жыхары за год займелі анкалагічныя захворванні, 19 чалавек захварэлі на туберкулёз. Адной з нявырашаных праблем застаецца алкаагалізм, якім пакутуюць ужо 162 жыхары раёна, сярод якіх 18 падлеткаў.

*У. Шык, Паставы*

## Загінулі пад калёсамі аўтобуса

Страшнай бядой закончылася паездка двух хлапчукоў-сябрукоў на веласіпедзе ў Віцебскім раёне. Вечарам вучань 7 класа Воранаўскай СШ і старэйшы па ўзросту хлопчык з абласнога цэнтра каталіся разам па вуліцы вёскі Яроміна і, забыўшыся пра небяспеку, выехалі на паласу сустрэчнага руху шашы Лёзна-Віцебск. Вадзіцель «Ікаруса» ўжо нічога не мог зрабіць, каб пазбегнуць аварыі. Ад атрыманых траўм абодва хлопчыкі памерлі на месцы здарэння.

*У. Шык*




Фотамантаж Ул. Скрабатуна

Вольны час можна выкарыстоўваць па-рознаму. Гэтыя два малойцы, выпіўшы хадавога «чарніла», разлягліся адпачываць на асфальце вуліцы Шпітальнай, а іншыя, тым часам, актыўна і цікава адпачываюць на Канарах..

# Рэгіянальны экспрэс

## Помнік у сасновым бары

Урочышча Барок паблізу горада Глыбокае, што ў Віцебскай вобласці папоўнілася яшчэ адным напамінам аб страшных падзеях, якія разгортваліся тут у гады мінулай вайны. Польскі саюз аховы помнікаў адкрыў на месцы расстрэлу некалькіх святароў вялікі манумент у выглядзе крыжа. Побач, на мармуровых плітах, сярод выбітых імён закатаваных, восем прозвішчаў ксяндзоў, трое з якіх прызнаныя мучанікамі блажэннымі. Год назад папа Рымскі Ян Павел Другі да святых прылічыў святароў бліжэйшых прыходаў Мечыслава Багаткевіча, Уладыслава Мацькавяка і Станіслава Пыртака. Пасля арышту ў снежні 1942 года, усе трое, яшчэ малыдя людзі, маглі выратавацца ад смерці і ўцячы, але адмовіліся, паколькі фашысты маглі за гэта знішчыць сотні невінаватых заложнікаў. Ва ўрачыста-жалобных мерапрыемствах удзельнічалі надзвычайны і паўнамоцны пасол Польшчы ў Беларусі М. Машкевіч, біскуп Віцебскай дыяцэзіі, кіраўніцтва раёна, шматлікія вернікі і госці.

*Уладзімір Шытаў*

## Дэндрапарк на школьным двары

Яшчэ да пачатку канікулаў дзеці з Тумілавіцкай СШ Докшыцкага раёна паспелі закласці ў сябе школьны дэндрапарк з 1250 саджанцаў рэдкіх дрэў. Яны спадзяюцца, што праз некаторы час будзе дзе сабрацца, каб успомніць ля падросшых блакітных елак, піхтаў, спірэяў, барбарыса пра самую светлую пару жыцця. У сваім садзе дзеці цяпер бываюць часта, бо прыходзіцца клапаціцца аб кустарніках і амаль аб тысячы кветак: гваздзіках, петуніях, астрах. Больш 40 тысяч рублёў на набыццё неабходных саджанцаў і насення школьнікі займелі ад рэалізацыі прадукцыі свайго доследнага поля. Па-іншаму шляху пайшлі ў суседняй Бярозаўскай СШ. Тут з`явілася дэкаратыўна-мастацкая альпійская горка з кветак. На яе пайшло 25 тон завазнога грунту і 8 тон камянёў.

*Уладзімір Шайкоў.*

## Стаць у строй!

У Галоўным штабе Беларускай арміі ў сталіцы будуць служыць хлопцы-прызыўнікі з Пастаў. Усяго выклікалі сёлета на камісію273-рох хлопцаў, у запас адпраўлены па стану здароў`я 41 чалавек. Адтэрміноўку атрымалі 42 хлопцы. Да канца ліпеня салдацкія боты абуюць 172 хлопцы, многія з якіх маюць тэхнічныя спецыяльнасці. Адразу 23 прызыўнікі будуць спрабаваць стаць афіцэрамі.

У. Шык

## Ратвейлер-забойца

**Сабака на прагулцы скусаў 74-гадовую жыхарку Гомеля, якая памерла ў рэанімацыі абласной бальніцы.**

Паджылая жанчына была ў шоку, са скальпіраванымі ранамі галавы і шыі параломамі касцей. Ратвейлера прывяла ў хату дачка памершай. Яна ж папрасіла міліцыянераў застрэліць яго.

Выпадак нападу сабакі на чалавека са смяртэльным зыходам на Гомельшчыне ўжо другі. Мінулай зімой сабака гэтай пароды загрыз ў Светлагорску 20-гадовую дзяўчыну з вёскі Якімава Слабада -- пакусаў шыю, рукі, а з галавы літаральна зняў скальп. Дзяўчына памерла на месцы.

*А. Гатоўчыц*

## Пальма з водарам мяты

Амаль дваццаць гадоў прастаяла ў службовым кабінеце старшыні калгаса «Сцяг Перамогі» Мёрскага раёна пальма. За ёй даглядалі палівалі, але не чакалі, што расліна здольна зрабіць прыемны сюрпрыз. Усім на здзіўленне на днях пальма нечакана ўпершыню зацвіла. Паветра ў памяшканні напоўнілася прыемным водарам, які нагадвае пах мяты. З цвіценнем пальмы супала ў гаспадарцы яшчэ адна прыемная падзея. Адразу чатыры новыя жылыя дамы ўзвёў калгас для сваіх работнікаў. А ў калгасе імя Цітова таго ж раёна шчаслівымі навасёламі сталі жыхары адразу шасці сем`яў.

*Уладзімір Шытаў*

## Бел-чырвона-белы сцяг над амфітэатрам

Каля 10 гадзін раніцы 27 ліпеня над летнім амфітэатрам у Віцебску невядомы замацаваў на светлавую апору бел-чырвона-белы сцяг. Больш гадзіны ён трымцеў на ветры, прыцягваючы ўвагу гараджан. Нехта выказаўся, што гэта справа рук вядомага верхалаза Мірона, які быццам бы пакінуў прывязаную да дрэўка запіску, у якой значылася: *«Беларусь жыве вечна».*

***В. Коваль***

## Зноў уборка будзе нервовай

Нават у паўночнай Віцебскай вобласці стан палеткаў збажыны дазволіць ужо ў трэцяй дэкадзе распачаць жніво.

Але падрыхтаванасць камбайнавага парку ў многіх месцах выклікае трывогу. Нават у прызнаных лідэраў, хлебаробаў Докшыцкага раёна, ніводная гаспадарка ў канцы чэрвеня не была гатова да выхаду ў поле, а патрэбу ў рамонце мелі 92 камбайны. У большасці калгасаў збожжаўборачная тэхніка зношана поўнапсцю, але яе няма чым замяніць. Зразумела, па савецкай традыцыі ў апошні тэрмін зробяць усё магчымае і немагчымае, каб скляпаныя сяк-так агрэгаты выправіць у поле. У цэлым па вобласці давесці да ладу спазніліся ў тэрмін 60% парку машын Убіраць жа трэба 420 тысяч гектараў і пры ўмове неспрыяльнага надвор`я ёсць шанц зацягнуць жніво да глыбокай восені.

*Уладзімір Шык*

## У Глыбокім з`явіліся фальшывыя пяцімільённыя банкноты старога ўзору



Зайшоўшы ў глыбоцкую краму купіць цыгарэты, быў вельмі здзіўлены, калі прадавец пачала слюнявіць палец і церці ім купюру. Вачэй з мяне не зводзіць. «Твой твар я памятаю, часта тут бываеш,-- кажа яна,-- нікуды не дзенешся, калі грошы фальшывыя». «Вы думаеце, што ў мяне дома стаіць ксеракс і я гэтыя грошы штампую?»-- не вытрымаў я. «А хто цябе ведае, хіба й так не можа быць?-- дадала прадавец,-- во дзяўчаты здалі грошы ў банк і аказалася -- тры купюры фальшывыя, прыйшлося свае грошы аддаваць».

Прадавец грошы не ўзяла, нечакана ў яе «не хапіла дробязі выдаць рэшту. Цыгарэты прыйшлося купляць у іншай краме. Сустрэўшы знаёмую супрацоўніцу банка, высветліў: такі факт сапраўды меў месца. Больш таго, Беларускае тэлебачанне таксама пацвердзіла факты з`яўлення на тэрыторыі нашай краіны фальшывых 5-мільённых купюр.

Але бяда адна не ходзіць. Атрымліваючы мізэрныя заробкі, можна ў дадатак стацца і ахвяраю фальшываманетчыка. Не зразумела толькі адно: чаму з-за нейкага падробшчыка павінны мець дадатковыя праблемы ўсе мы, сумленныя грамадзяне?

***Л.Шпак***

## Думкі з нагоды

## І закружыў белай птушкай баль

**24 чэрвеня выпускнікі 2000 года Шаркоўшчынскай сярэдняй школы №1 прыйшлі на свой апошні развітальны баль.**

89 маладых, асабліва прыгожых у гэты дзень юнакоў і дзяўчатак, атрымалі атэстаты аб сярэдняй адукацыі. Святочнае ўбранне залы, прыўзняты настрой прысутных, шчырыя святочныя віншаванні і пажаданні выпускнікам, настаўнікам, бацькам -- традыцыйная прыкмета выпускнога балю. Сцены школы пакідалі чатыры класы: матэматычны, гуманітарны, руска- і беларускамоўны. Былі ўручаны чатыры залатыя, тры сярэбраныя медалі і 15 грамат за асаблівыя поспехі ў вывучэнні прадметаў. Цікавы, запамінальны сцэнарый; успаміны аб школьных падзеях, якія адбываліся на працягу вучобы ў школе; аб доўгіх адзінаццаці гадах, якія так хутка праляцелі, слёзы і смех і чаканне невядомага, хочацца спадзявацца, шчаслівага будучага для гэтых маладых -- усё гэта было ў той незабыўны вечар.

*У.Шалік*

## Балдукскае чудзішча

### міф альбо рэальнасць

**Возера Балдук, якое ляжыць на памежжы Пастаўскага і Мядзельскага раёнаў, мала вядома на Беларусі. Між тым, возера адметнае як сваёй глыбінёй (39,7 м.), так і высокай мінералізацыяй і празрыстасцю вады. Ёсць тут і рэдкія расліны.**

Калі быў створаны заказнік Блакітныя азёры,на берагах невялікага, але прыгожага возера сталі з`яўляцца турысты. Цяпер жа Балдук нечакана перажывае сапраўдны бум. З усіх куткоў Беларусі імкнуцца сюды дапытлівыя людзі, ладзяць экспедыцыі. У друку з`явіліся публікацыі, якія распаўсюджваюць чуткі аб сваім беларускім, накшталт лахнескага, чудзішчы. Знаходзяцца нават сведкі, якія бачылі нейкую незвычайную жывёліну да шасці метраў даўжынёй, што гойдалася ў хвалях возера.

Пакуль што высілкі энтузіястаў, якія займаюцца даследаваннем возера, плёну не далі. Кажуць, што вельмі складаны рэльеф дна возера, з мноствам лабірынтаў, дзе тое чудзішча можа схавацца ад дапытлівага вока.

Што ж, будзем чакаць новых цікавых звестак і даследванняў возера. Мабыць, і наша рэчаіснаць прынясе неверагодны сюрпрыз.

## Аварыя

## Смуткуюць медыкі Пастаўшчыны

**У апошні шлях нядаўна правodзілі свайго калегу, галоўную медсястру Пастаўскай цэнтральнай раённай бальніцы Тарззу Пушынскую, медыкі раёна.**

Адна з вопытных спецыялістаў, яна загінула ў час аварыі на дарозе Глыбокае - Полацк. У час моцнага дажджу, пры дрэннай бачнасці, службовую «хуткую дапамогу» збіў МАЗ. Медыкі працягваюць змагацца за жыццё вадзіцеля. У мясцовым ТМА сёлета ўжо трэці па ліку трагічны выпадак, калі з жыцця пайшоў кваліфікаваны медработнік.

*Уладзімір Шык*

Праваабарончы бюлетэнь Глыбоцкага прадстаўніцтва БХК № 2(2), ліпень-жнівень 2000 года

СЛОВА народу

Права — гэта не тое, што вам нехта дае, а тое, што ніхто не можа ў нас адняць.
Рамзей Кларк, ЗША.

# Крок насустрач трагедыі

Яго зрабіла Сяліцкая Насця з вёскі Вялец, якая сёлета скончыла 8 класаў Суклінскай сярэдняй школы. Крок насустрач трагедыі ёй дапамаглі зрабіць дарослыя людзі, кіраўнікі калгаса «Кастрычнік» Глыбоцкага раёна, якія, «заманіўшы» дзяцей напіткамі і заробкамі, бяспечна адправілі іх адных на работу, адправілі, не атрымаўшы дазвол на перавозку дзетак ад ДАІ. Трагедыя здарылася. Насця лечыцца ў абласной бальніцы. Яе бацькі моляць Бога, каб ён дапамог іх 15-гадовай дачцы стаць на ногі і даў магчымасць цешыцца жыццю. Кіраўніцтва калгаса паўсялякаму «замольвае» свой грэх перад бацькамі дзяўчынкі, баючыся вынікаў узбуджанай крымінальнай справы.

ДАІ яшчэ раз папярэджвае і перасцерагае дарослых: не гуляйце з «агнём», асабліва калі побач дзеці..

Гэтай трагедыі магло б і не быць, каб кожны на сваім рабочым месцы думаў першнаперш не пра тое, што яму «дадуць па шапцы» за чарговае невыкананне нейкіх паказчыкаў, а пра людзей, якія штодзённа цягнуць непасільны сельскагаспадарчы «воз», спрабуючы зрушыць яго з месца.

**Дэкларацыя правоў дзіцяці абвешчана рэзалюцыяй 1386 Генеральнай Асамблеі ААН ад 20 кастрычніка 1959 года. Краіны, якія падпісаліся пад ёй (і Беларусь таксама) узялі на сябе абавязкі забяспечыць дзецям шчаслівае дзяцінства і карыстанне ўсімі правамі і свабодамі, як дзеля іх уласнага дабрабыту, так і дзеля дабрабыту грамадства.**

**20 лістапада 1989 года прынята міжнародная Канвенцыя аб правах дзіцяці. Сярод асноўных яе прынцыпаў права на жыццё, здароўе, развіццё дзіцяці... (Пад гэтым дакументам таксама падпісалася Беларусь).**

**Міжнародны пакт аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах, 1996г. (рэзалюцыя ААН 2200 A(xxi) ад 16 снежня 1996 года ўступіў у сілу 3 снежня 1976 года пасля ратыфікацыі). Артыкул 10. «...Дзеці і падлеткі павінны быць абаронены ад эканамічнай і сацыяльнай эксплуатацыі. Прымяненне іх працы ў вобласці, шкоднай для іх здароўя ці небяспечнай для жыцця... караецца па закону. Акрамя таго, дзяржавы (у іх ліку і Беларусь) павінны ўстанавіць узроставыя межы, ніжэй якіх карыстанне платнай дзіцячай працай забаронена і караецца законам.**

**Закон Рэспублікі Беларусь «Аб правах дзіцяці». Артыкул 21 «Дзіця і праца».**

**«...З пісьмовай згоды аднаго з бацькоў (апекуноў, папячыцеляў) працоўны дагавор можа быць заключаны з непаўналетнім, які дасягнуў 14 год. Да самастойнай працы непаўналетнія дапускаюцца па дасягненні імі 16-гадовага ўзросту...»**

Летніх канікулаў ці то гарадскія, ці то вясковыя дзеці чакаюць з нецярпеннем. У кожнага свой «прыкід» на лета: гарадскія дзеці забяспечаных бацькоў імкнуцца ў найлепшыя рэспубліканскія і абласныя лагеры, дзеці з бяднейшых сем'яў задаволены лагерам пры школе. Тыя, хто не прызнае ніякіх лагераў, выязджае з горада на вёску, да бабуль і дзядуляў, а вясковыя дзеці часцей за ўсё разам са сваімі бацькамі актыўна «адпачываюць» то на бураках, то на сенажацях, то на зернесушылках, дапамагаючы зарабіць лішнюю капейчыну. Каму-каму, а вясковым дзецям круізы па Міжземнамор'ю не пагражаюць...

У канцы чэрвеня ў калгасе «Кастрычнік» Глыбоцкага раёна была «напружёнка». Па сутнасці, яна бывае заўсёды і не толькі ў вышэйназванай гаспадарцы, бо ў вёсках рабочых рук не хапае -- вёскі старэюць і паціху выміраюць.

Калгасная адміністрацыя вельмі хутка знайшла выйсце са складанага становішча: кліч абляцеў калгас маланкай і быў пачуты дзятвой, бо за работу абяцалі і пачастункі салодкія, і па 600 рублёў у дзень. Звыклыя да работы, вясковыя школьнікі дружна працавалі падразаючы і падбіраючы на полі каласкі (во дажыліся!).

22 чэрвеня ў Суклінскай школе ўручалі атэстаты выпускнікам. Уся ўрачыстасць, аднак, была сапсавана трывожным паведамленнем: Сяліцкая Насця на хаду вывалілася з аўтобуса і скалечылася...

У той дзень на аўтобусе «Волгарь» Старыннік Ф.В. павёз дзяцей на поле. Ні брыгадзір, ні аграном разам не паехалі -- за бяспеку дзяцей не адказваў ніхто. Усе былі заняты больш важнымі справамі. Як усё адбылося, ніхто не можа растлумачыць. Але ведаючы, што дзеці ў такім узросце народ несідзячы, а калі дадаць «якасныя» вясковыя дарогі, мабыць, перапоўненасць аўтобуса, тлумачэнні не патрэбны.



Кропельніца -- шчасце не вялікае, але жыць трэба!

Добрая спадзяванка 15-гадовай Насцечкі Сяліцкай на значны заробак не спраўдзілася, а астатак лета, бесклапотныя гульні з сяброўкамі, так атрымалася, яна па волі калгаснай адміністрацыі, памяняла на бальнічны ложак. І добра, калі 1 верасня яна зможа прыйсці на святочную лінейку.

Дырэктар Суклінскай СШ К.Э. Хайноўскі заклапочаны лёсам дзяўчынкі, ён сказаў, што школа заўсёды пасылае з дзецьмі настаўнікаў. Чаму ў калгасе не знайшлі чалавека, які б адказваў за бяспеку дзяцей, ён зразумець не можа...

Насцечка ў бальніцы. Яе бацькі стараюцца, як могуць, каб дачушку найхутчэй паставіць на ногі. На добрыя лекі патрэбны добрыя грошы, а зарплату ў калгасе «Кастрычнік» затрымліваюць. Праўда, 10 тысяч «авансу» бацьку выдалі... Пазней калгас даў 50 тысяч. Разам з маці Насці ў бальніцу ездзіў старшыня, але, як кажуць, ужо рукі не падложыш... Бяда ўжо здарылася, ужо позна...

Падобныя няшчасныя выпадкі пры нашай беднасці ў рэспубліцы, у вобласці ды і ў нашым раёне, не рэдкасць. Некалькі год назад, напрыклад у гэтым жа калгасе непаўналетняму адрэзала нагу. Транспарт у большасці гаспадарак тэхагляд не праўшоў, бо плаціць за яго няма чым. Тэхніка альбо стаіць на «якары», альбо соўгаецца без дазвольных папер у межах гаспадарак, пакуль не трапіць на вочы якойсьці выязной рэйдавай брыгадзе ДАІ. Часценька вадзіцелі за рулём бываюць у нецвярозым стане, іншы раз не ведаюць элементарных правіл перавозкі людзей. Згодна новаму патрабаванню ДАІ, тэхагляд аўтатранспарту, які перавозіць дзяцей і інструктаж вадзіцеляў будзе праводзіцца праз кожныя два тыдні. Што датычыць трагедыі ў калгасе «Кастрычнік», то вадзіцель аўтобуса Ф.В. Старыннік быў цвярозы, а вось адказны старэйшы ў салоне адсутнічаў. Па аварыі справа перадана ў пракуратуру. Патрабаваць ці не ад кіраўніцтва калгаса кампенсацыю за маральны і матэрыяльны ўрон, прынесены іх дачцы, бацькі Сяліцкія яшчэ думаюць. **А мне хочацца нагадаць наша беларускае заканадаўства, згодна якога ў краіне забаронена дзіцячае рабства, а выкарыстоўваць платную працу 14-15-гадовых дзяцей можна толькі з пісьмовага дазволу бацькоў.** Гэтага не маглі не ведаць кіраўнікі гаспадаркі...

**С.Воранава,**
Глыбоцкі раён




# Прававы лікбез

Правы чалавека служаць абароне чалавечай годнасці самымі рознымі шляхамі і падраздзяляюцца на катэгорыі. **Асабістыя свабоды** абараняюць аўтаномію індывідыума і забараняюць дзяржаве пасягаць на свабоду чалавека. **Палітычныя правы** даюць чалавеку права ведаць аб справах, якія датычаць грамадства і ўдзельнічаць у прыняцці рашэнняў. **Працэсуальнае права** абараняе чалавека ад самавольства прымаемых дзяржавай рашэнняў. **Сацыяльныя правы** забяспечваюць грамадзяніна мінімумам сацыяльнай бяспекі. ***Яны ўтрымліваюць права грамадзян патрабаваць ад дзяржавы спецыфічных тавараў ці паслуг, якімі іншыя людзі забяспечваюць сябе самі ў выніку прыкладзеных уласных намаганняў.***

На працягу стагоддзяў праходзіў працэс прызнання індывідуальных свабод і абмежавання праваў улады ўрадаў. Хрысціянскія абшчыны,напрыклад, узялі на сябе адказнасць за асноўныя патрэбы выжывання сваіх членаў; гэту адказнасць прынялі пазней абсалютныя манархі, затым -- сучасныя дзяржавы. Хоць правы чалавека першапачаткова ўзніклі, як інструменты абароны ад тыраніі недэмакратычных улад, патрэбны яны і пры дэмакратыі. ***Калі дэмакратыя вызначае спосаб прыняцця сацыяльна значных рашэнняў, то права чалавека абмяжоўвае змест гэтых рашэнняў.*** У канстытуцыйнай дзяржаве ўмовы, пры якіх правы чалавека могуць парушацца, дэкларыруюцца ў Канстытуцыі. У ёй замацаваны тыя правы, якія могуць быць заканадаўча абмежаваны, у якой ступені, з мэтай абароны больш прыярытэтных інтарэсаў грамадства.

## Механізмы абароны правоў чалавека на нацыянальным узроўні

У кожнай краіне распрацаваны ўнутраныя механізмы, у задачу якіх уваходзіць гарантыя захавання правоў чалавека. Гэта суды (канстытуцыйныя), агульнай юрысдыкцыі (крымінальныя, грамадзянскія, па сямейных справах, па працоўных спрэчках...); юрыдычныя грамадзянскія установы; механізмы прамой дэмакратыі; права падачы петыцый; парламенцкія механізмы; свабодныя сродкі масавай інфармацыі; прадстаўнік па правах чалавека.

## Органы ААН, якія маюць дачыненне да абароны правоў чалавека

-- Міжнародная Арганізацыя працы ў Жэневе, адказная за садзейнічанне абароне права на працу, прафсаюзных арганізацый і іншых эканамічных і сацыяльных правоў;
-- Арганізацыя ААН па пытаннях асветы, навукі і культуры (ЮНЕСКА) у Парыжы садзейнічае рэалізацыі права на адукацыю і іншых культурных правоў;
-- Харчовая і сельскагаспадарчая арганізацыя ў Рыме-- права на ежу;
-- Сусветная Арганізацыя Аховы здароўя ў Парыжы-- права на здароўе;
-- Офіс Вярхоўнага Камісара па справах бежанцаў у Жэневе;
-- Праграма развіцця ў Нью-Йорку;
-- Дзіцячы фонд ААН.

## Паглядзелі рай, пабачылі і пекла...

# ДАРОГА

*Сасновы бор, знаёмая імшара,*
*Старыя формы – круг на валуне.*
*Шум трыснягу, буслоў у небе пара*
*Гады юнацтва нагадалі мне.*
*Ф. Ляшонак*

**Кожны новы дзень не падобны на папярэдні. Кожны чалавечы лёс -- свая дарога ў зямным сусвеце. На скрыжалях часу выяўна акрэсліваецца постаць Стагоддзя -- гісторыя чалавека і чалавецтва, сатканая з хвілін і момантаў, радасці і слёз, жыцця і смерці. Усё жывое пры жыцці вяртаецца да сваіх вытокаў: птушкі з выраю -- у свае гнёзды, а чалавек -- на бацькаўшчыну. І калі сонца заходзіць дзеля таго, каб заўтра прынесці новы дзень, то чалавек вяртаецца на радзіму, каб з новымі сіламі гэты дзень сустрэць. 56 год не была на Глыбоччыне наша зямлячка Соф'я Кухта. Вывезеная ў гады вайны ў Германію, пасля яе вызвалення яна выйшла замуж і выехала ў Галандыю. Жалезная савецкая «заслона», нібы скібу чэрствага хлеба адрэзала нашу зямлячку ад роднага горада. Затым была перабудова, дзяльба ўлады, выбары, перавыбары... Нікому не было справы да свайго народа, аб беларусах за мяжой ніхто і не ўспамінаў. Жывучы ў дастатку, без асаблівых праблем у далёкай Галандыі, Соф'я марыла аб тым дні, калі ступіць на родную глыбоцкую зямлю, пераступіць парог бацькоўскай хаты, загаворыць па-беларуску з землякамі. Усе 56 год яна спявала свае песні, па-свойму размаўляла сама з сабой; ёй сніліся родныя мясціны. Толькі летась, на восемдзесят другім годзе жыцця, яе мара збылася.**

### 1.

Хата, ў якой нарадзілася Соф'я, стаяла на вуліцы Замкавай, галоўнай вуліцы гарадка па суседству з двума храмамі -- царквой і касцёлам. Маці гадавала Соф'ю і яе брата адна і за ўсё жыццё не назвала імя таго чалавека, які мог бы быць бацькам яе дачкі -- у пашпарце Соф'і няма звычнага для нас імя па бацьку.

За польскім часам Соф'я пайшла ў школу. У Глыбокім 30-х гадоў школы былі дзве: адна драўляная, адразу за царквой, другая цагляная, якая стаяла на пачатку Ломжынскай, зараз вуліцы Энгельса, вуліцы пры рынку. Дзяўчынка спачатку хадзіла ў адну школу, пазней у -- другую. Акрамя арыфметыкі, граматыкі, спеваў у школе былі і ўрокі працы. Дзяўчынкі вучыліся шыць, вышываць, вязаць, а хлопцы спасцігалі мужчынскія навукі -- пілавалі, майстравалі. Соф'я спявала ў хоры, была рухавая, заўсёды з усмешкай на вуснах. У яе нават быў закаханы настаўнік спеваў, малады Аранд.

Ад касцёла адбягалася вуліца Кракаўская (Савецкая), за царквой была вуліца Сянкевіча (Горкага), вядомая сваім бардэлем, які размяшчаўся ў доме №81 якраз насупраць могілак. У цэнтры Глыбокага, па вуліцы Віленскай, быў рынак і яўрэйскія крамы, яткі, дзе прадавалі тканіну, посуд, мяса. На Докшыцы выводзіла вуліца Варшаўская (Маскоўская), прагам у супрацьлеглы бок была вуліца Ломжынская, паралельна ёй Беластоцкая (Гагарына). На пляцы 3 Мая (плошча 17 Верасня), побач з касцёлам, быў домік ксяндза, а збоку драўляная яўрэйская сінагога, ашаляваная дошкамі, што ішлі ў шырыню, і пафарбаваная ў шэры колер. Вольны ад вучобы і дамашняй працы час Соф'я бавіла на капаніцы, так называлі вялікую сажалку, што была ля царквы. Там быў мост, на другім баку млын, паверхня вады ўсыпана гарлачыкамі. берагі акальцаваны высокімі дрэвамі. Прыгажосць і замілаванне! Сёння ўсё гэта ўжо мінулая гісторыя Глыбокага. Мінулая, на жаль, і прыгажосць. Гартаючы кнігу Уладзіміра Скарабатуна «Глыбокае на старых паштоўках», Соф'я, як дзіця, цешылася, пазнаючы свой даваенны час.

-- Непадалёку ад царквы быў кляштар законнікаў,- паказвае яна. -- А вось хата на Кракаўскай вуліцы, дзе жыла багатая сям'я Кучкі. Дочкі гаспадара ў час вайны любіліся з немцамі. Як прыйшлі рускія, усю сям'ю за гэта расстралялі...

А перад касцёлам зрабілі алтар прама на вуліцы і была імша ў поўнач... Не памятаю толькі на якое свята. А на 29 чэрвеня, у дзень святых Пятра і Паўла, ля касцёла хадзіла працэсія вернікаў. 13 чэрвеня быў хрэсны ход да Удзела. І я хадзіла. Абутак пад паху і босая ішла. А на свята Яна ішлі ў Мосар...



Гэты здымак зроблены ў сярэдзіне ліпеня 2000 года, калі Соф'я Кухта з мужам адпачывалі ў Глыбокім.

Калі жанчына бачыць Беразвечча, твар яе пахмурнее. З гэтым месцам звязаны яе самыя сумныя ўспаміны.

-- Калі перад вайной рускія адступілі і прыйшлі немцы, то яны збіралі глыбачан і паказвалі знявечаныя трупы местачкоўцаў,-- успамінае Соф'я. -- Многія туды хадзілі, думалі знайсці радню. І я была там. Ад таго, што ўбачыла, заснуць не магла, два гады мяса не ела, гадзілася. Трупы былі парэзаныя: жываты ўспораныя, кішкі выцягнутыя, скура палосамі зверху данізу злупленая, вушы, насы, паадразаныя і перамешаныя з крупамі...

На яе вачах заблішчэлі слёзы.

-- А немцы як прыйшлі, сталі страляць палонных. Зіма была, цішыня стаяла, аж у нас дома былі чуваць людскія крыкі... Затым яўрэяў сагналі на пляц 3 Мая, дакументы правяралі. Прыехаў нейкі начальнік, людзі расступіліся, а ён скамандаваў: хто справа -- дамоў, хто злева -- расстраляць. І ўсіх расстралялі...

Палонныя, што былі ў Беразвеччы так галадавалі! Як ішлі блізка, бачылі што дрэвы там, за дротам, дакуль дастае чалавек, паабгрызаныя, кары не мелі. Хацелі людзі есці і елі што было...

А вось наша хата. На самой справе хаты даўно няма. На тым месцы зараз кансервавы завод. І ўсё ж ёсць месца ў горадзе, дзе жыла Соф'я, ёсць месца ў сэрцы, дзе на працягу дзесяцігоддзяў яна беражліва захоўвала памяць пра бацькаўшчыну.

### 2.

Соф'ю вывезлі ў Германію ў 1943 годзе. Трапіла яна на працу да «баура», які меў ладную гаспадарку, зямлю. трымаў рэстаран. Немка, паглядзеўшы на далікатныя дзявочыя рукі, сказала, што хутка яны стануць чорныя і парэпаныя. Так яно і сталася. Дзяўчына і палола, і свіней карміла, і есці ім варыла, і ў рэстаране прыслужвала. Зімой, на сіверы, бульбу мыла ў халоднай вадзе.

-- Аж у пальцы калола і па патрэбе хацелася збегаць,-- успамінае яна. -- Але ж трэба было цярпець, пажаліцца няма каму...

Паўтара гады цяжкай працы сталі своеасаблівай платай за далейшае добрае жыццё.

У таго ж баура аказаўся і яе Хэнк, вывезены з Галандыі. Яны пакахалі адзін аднаго і пасля вызвалення мястэчка амерыканцамі, маладыя выехалі ў Галандыю, на радзіму мужа. Адносіны паміж маладой беларускай і сваякамі Хэнка не заладзіліся. Яго родныя ніколі не чулі пра Беларусь і думалі, што там жывуць дзікуны, таму і радніцца з Соф'яй не захацелі. І ўсё ж каханне было настолькі моцным, што здолела перамагчы ўсе перашкоды: вось ужо 56 год Соф'я і Хэнк крочаць па жыцці разам. І кахаюць адзін аднаго так, як 56 год таму назад...



16-гадовая Соф'я са сваімі сяброўкамі. Абедзвюх звалі Верамі.
Здымак зроблены 5.02. 1934 г.

### 3.

У сям'і ван Баллегой, куды нявесткай прыйшла Соф'я, жанчыны не працавалі. Хэнк не дазволіў сваёй жонцы ісці на працу і яна занялася гаспадаркай. Не свінямі, не агародамі. Гаспадаркай сямейнай.

Жылі маладыя ў горадзе Утрэхце, што ў 30 кіламетрах ад Амстэрдама ў двухпавярховай кватэры, якую здымалі. Купляць свой дом, вырашылі, не трэба, бо ў жыцці магчымы пераезды, пошукі новага месца працы. Праз нейкі час Соф'я ператварыла сяміпакаёвую кватэру ва ўтульнае гняздзечка, дзе дваім было і светла, і цёпла.

Хэнк працаваў на заводзе, меў добры заробак. Ужо ў 1954 годзе ён купіў матацыкл BMW, пазней -- новенькую «Аудзі»: аўтамабіль -- рэч патрэбная, бо на ім вельмі зручна ездзіць па Еўропе. А паездзілі маладыя шмат. Штогод, калі Хэнк ішоў у водпуск, яны выбіралі месца адпачынку. 26 год запар адпачывалі ў Італіі, пабывалі ў Іспаніі, у Марока, Андоры, Швейцарыі, Англіі, Германіі, Югаславіі. Венгрыі, Чэхаславакіі, Польшчы, Грэцыі, Турцыі, на Канарскіх астравах, Грэцыі... Выбіралі краіны экзатычныя і часцей за ўсё з цёплым кліматам, бо дажджоў і прахалоды хапала і ў Галандыі. Зімы, як у Беларусі, там, праўда, няма, але блізкасць з морам не дае цяпла. Між тым, тэмпература паветра ў Галандыі зімой 14-16 градусаў, якраз як на Беларусі вясной.



У 1993 г. Соф'я і Хэнк пабывалі ў Тайландзе. Пірамiды, якія бачны на здымку, кажуць, залатыя. У Тайландзе іх толькі фатаграфуюць, імі дзівяцца. У нас з імі, мусіць, было б тое, што было з глыбоцкім золатам, якое бясследна знікла ў нечых бяздонных кішэнях.

Праўду кажуць: шчаслівыя хвіліны не заўважаюць. Гады адляцелі, нібы птушкі ў вырай. Хэнк пайшоў на пенсію. Штомесяц атрымоўвае 1800 долараў.

-- Пенсія вялікая,-- кажа Соф'я, -- бо адпрацаваў ён больш, чым трэба. (Адпрацаваў звычайным рабочым і за ўсё жыццё прачытаў адзіную кнігу «Знахар» нашага земляка Т. Даленгі-Мастовіча). Да таго ж, у нас у краіне такія законы: калі чалавек дасягнуў 65-гадовага ўзросту, яму плацяць штомесяц яшчэ 550 долараў. Плацяць і тым у каго працоўны стаж 20 і больш гадоў, і тым, хто, як і я, не адпрацаваў на Галандыю ніводнага дня. Нам таксама плацяць. Калі чалавек адзінокі, то атрымлівае 800 долараў кожны месяц. Грошы гэтыя плацяць і простым галандцам, і членам каралеўскай сям'і. Такое ў нас раўнапраўе.

Нягледзячы на ўзрост, Соф'я з мужам чатыры разы на год ездзяць адпачываць. А вярнуўшыся, разглядаюць фотаздымкі, праглядаюць відэафільмы, знятыя Хэнкам. Да слова, ён сапраўдны рэжысёр -- знята ўсё якасна, з толкам і веданнем справы. Як кажа Соф'я, аўтамабілі і відэа яго хобі. Цікавыя заняткі, але нам, беларусам, бліжэй рамонт аўтамабіляў ды і агароды.

Летась праваслаўны Ян Соф'я з мужам святкавалі ў Глыбокім, сярод новых знаёмых, маладых і паджылых, сярод роднай мовы, няхай сабе і трасянкі, сярод зямлякоў. І ніякія іспанскія пляжы не заменяць беднаватай, але такой роднай краіны -- Беларусі.

### 4.

Як Беларусь славіцца бульбай, так Галандыя рыбай, сельскагаспадарчай прадукцыяй і кветкамі. У іх хапае ўсяго: мяса, малака, гароднiны. Іхнія фермеры завалілі прадукцыяй і сваю краіну, і на экспарт прадаюць. Таму вырашана скарачаць колькасць сельскіх вытворцаў, бо столькі прадукцыі галандцам не з'есці.

Галандскімі кветкамі ўпрыгожваюць магазіны, офісы ва ўсіх краінах свету. Ніводная ўрачыстасць без іх не абыходзіцца. Штогод імі ўпрыгожваецца плошча Святых Пятра і Паўла ў Рыме і сам папа Рымскі Ян Павел Другі дзячыць вытворцаў за гэты кветкавы цуд.

Нягледзячы на тое, што галандскія каровы даюць па 30 літраў малака ў суткі (у Ізраілі ёсць парода кароў, якія даюць па 100 літраў у суткі). у магазінах няма смя-

# ДАДОМУ



**Выпуск 7-га класа Глыбоцкай школы. У трэцім радзе Соф'я Кухта, у другім радзе -- Яніна -- родная сястра Тадэвуша Даленгі-Мастовіча, якая працавала настаўніцай. Яна вучыла Соф'ю не толькі граматыцы, але і гульні ў тэніс. Соф'я Кухта ведала самога Тадэвуша, які жыў у Вільні, але прыязджаў да бацькоў у Глыбокае.**



Наша зямлячка ля тайландскай святыні

таны. Прадаецца толькі манэз і стэрылізаванае малако, якім запраўляюць каву.

Прыватныя магазіны і крамы ломяцца ад сыру, якога ў Галандыі каля ста гатункаў, а таксама ад рыбы. Добрая рыба каштуе дорага- 20-30$ за кілаграм, 30$ кілаграм масла, 3$ літр бензіну, халадзільнік 250-600$, адзенне, абутак ад 20$ і вышэй. Тыя ж джынсы можна купіць, напрыклад, і за 50$ долараў і за 400$. Усё залежыць ад фірмы, памеру, мадэлі. «На тыя 550$, што даюць паджылым людзям, калі яны маюць страху над галавой, пражыць можна бязбедна: і паясі добра, і апранешся»,-- сказала Соф'я. Год 15 назад дом у Галандыі можна было купіць за $30 тысяч, зараз за $120-150 тыс. Аўтамашыны, у залежнасці ад маркі, каштуюць ад 6 да 150 тысяч долараў. Дарэчы, ў Галандыі шмат машын крадуць і перапраўляюць у краіны былога Савецкага Саюза. Аўтамабільным «бізнесам» займаюцца ў большасці рускія ды беларусы, чым выклікаюць непрыязь мясцовых жыхароў.

Дом, аўтамабіль, мэблю можна купляць і ў растэрміноўку на 20-25 год, але плаціць грашыма выгадней, бо пры наяўным разліку цана тавара зніжаецца на 5-10%.У Галандыі, як і у нас, ёсць страхоўка. Толькі там сваю маёмасць ацэньвае сам гаспадар, а не дзяржаўная кантора і, зыходзячы з сумы ацэнкі, налічваюцца страхавыя выплаты.

Усе магазіны, банкі, школы ў Галандыі прыватныя. Лячэнне ў бальніцы бясплатнае, аперацыі -- таксама. Прыносіць свае лекі ў бальніцу нельга, там усё сваё. У палатах чысціня, палаты на 1-2 чалавек. Ні прасціны, ні наўлечкі, ні коўдры свае несці не трэба. І шпрыцы, і капельніцы, і абязбольваючыя таксама не трэба купляць самім.

Соф'я перанесла тры аперацыі: на пазваночніку, на руцэ і на назе. Пасля аперацыі на пазваночніку яна год ляжала нерухома і ўсё ж урачы змаглі паставіць яе на ногі. Пасля аперацыі на назе Соф'я перамяшчалася на электрычнай калясцы, якая і па дарозе ехала, і падымалася па лесвіцы на другі паверх. У Соф'і дзве такія каляскі. Кошт кожнай з іх 7 тысяч долараў, але грошы гэтыя заплаціла мэрыя. Зараз Соф'я ходзіць з устаўленымі ў нагу металічнымі стрыжнямі і спецыяльным прыстасаваннем, якое дапамагае рухацца, як звычайна. З ім яна прыляцела ў Беларусь.

Раней у Галандыі можна было атрымаць любыя неабходныя лекі бясплатна. Чатыры гады таму назад яны сталі платныя. Многія лекі каштуюць дорага, таму Соф'я купляе іх у Іспаніі.



Хэнк на адной з Бангкокскіх вуліц.

--Жыць робіцца цяжэй,- кажа Соф'я. --Людзі і хварэюць, і дурэюць, многія не працуюць, працэнты адлічэння на сацыяльныя патрэбы зніжаюцца, таму некаторыя, раней бясплатныя паслугі, сталі платнымі. Да таго ж, у Галандыі шмат эмігрантаў з краін «трэцяга» свету, якія ўцякаюць з радзімы ў пошуках лепшага жыцця. Шмат наехала туркаў, якія нідзе не працуюць і жывуць за кошт дапамогі на дзяцей. За гэтыя грошы купляюць кватэры, «Мерседэсы», бо дзяцей у іх па 6-8. Эмігранты плацяць па $25 тысяч, каб перабрацца ў Галандыю, займець пашпарт і працаваць. Гэта таксама «бізнес» для некаторых. У Галандыі ёсць беспрацоўныя, але іх няшмат. За грашовую дапамогу яны нядрэнна жывуць і не збіраюцца працаваць. Ёсць свабодныя вакансіі, але іх займаюць мясцовыя жыхары, эмігранты шукаюць «лёгкі» хлеб. Калі хто з іх і працуе, то гэта адзін чалавек на 30 тысяч.

## 5.

У галандцаў, як і ў беларусаў, свой рэжым. Па-першае, наш традыцыйны абед у іх бывае ў 5-6 гадзін вечара. Раніцой у дзесяць п'юць каву з белым хлебам, маслам ці мармеладам, у гадзіну дня чай з бутэрбродамі і ў восем вечара зноў каву. На абед супы не гатуюць, а ядуць толькі мяса, гарнір, гародніну. Соф'я не магла надзівіцца, што свіную выразку, паляндвіцу, у Глыбокім можна набыць толькі раз у тыдзень, на рынку. Яе здзіўлялі чэргі ў чаканні ліверу, таннай каўбасы ці фаршу. Яна не зразумела гумару, калі, купляючы белы хлеб (у Галандыі ядуць толькі белы хлеб), пачула: «Багата жывеш, калі белы хлеб ясі». Незвычайным для жанчыны быў абедзенны перапынак ва ўнівермагу. «Паспытаўшы» нашага жыцця, яна сказала: «Пагляздзелі мы рай, пабачылі і пекла. Ніколі ў вас добра не будзе, бо вы трацце пакупнікоў. У нас п'юць каву, перакусваюць, але ніхто не зачыняе магазіны на абед, на выхадны, наадварот, кожны стараецца нечым прывабіць: стракатай рэкламай, скідкамі на цэнніках, латарэяй і выйгрышамі. Калі, напрыклад, бярэш у магазіне дзве бутэлькі шампанскага, то трэцюю могуць даць бясплатна». Падобнае я назірала летась у Польшчы.

Галандскія грошы -- гульдэны, на долар іх трэба ўсяго два, а не тысячу, як у нас. Грошы, калі маеш рахунак у банку, можна атрымаць праз банкаматы, прычым атрымаеш столькі і такімі купюрамі, якія пажадаеш. Здавалася б, усё гэта зразумела, гэта павінна стаць нормай і яно становіцца нормай, толькі не ў нас.

«Выбар тавараў і паслуг у вас бедны, як на Кубе»,-- сказала Соф'я, прайшоўшыся па глыбоцкіх магазінах.

Многія тавары ў нас залежваюцца, бо людзі штогод бяднеюць. Купляем мы не тое, што любім, а тое, што можам аплаціць, а гэта тавары нізкай якасці. Мы можам зарабіць сабе на годнае жыццё, на лекі. Мы ніколі не пабачым свет і не будзем ведаць з чым параўноўваць наша існаванне. Мы, як курыца з яйцом, будзем бегаць па банках з 50-цідоларавай купюрай і прасіць «разбіць» яе на дробныя, а банкі будуць казаць, што ў іх разменнай валюты няма. Дык навошта тады банкі?

У нас чэргі за ежай, за білетамі на праезд, за пашпартамі і візамі. Усё жыццё мы стаім у чарзе на годнае жыццё, а чарга наша чамусьці не падыходзіць.

Што нам гаварыць пра відэакамеру коштам у дзве тысячы долараў, калі ў раёне нельга падключыць звычайны тэлефон, факс-мадэм, нельга выйсці ў Інтэрнэт, нельга выбраць цікавы тэлеканал, бо выбар абмежаваны. Каб не расійскі канал «Культура», Літва ды Латвія, глядзець не было б чаго. Да слова, Галандыя прымае 35 тэлеканалаў. Ёсць праграма, куды можна тэлефанаваць і выказваць любыя прэтэнзіі да любой фірмы. Крытыка прагучыць на ўсю краіну і гэта самае горшае пакаранне, бо людзі перастануць туды звяртацца.

Парадак у краіне і яе лёс там вырашае сам народ, таму Галандыя -- багатая краіна, якая абагнала і Германію, і Грэцыю... Чалавек працуе і ведае, што ад уласнага старання залежыць яго дабрабыт.



**Гэтую «Тайную вячэру» зрабіў з пяску адзін адпачываючы іспанец.**

## 6.

Паездка Соф'і і Хэнка ў Беларусь не абышлася без кур'езаў. Хутчэй кур'ёз -- гэта для нас, а для іх збянтэжанасць.

Да кавы Соф'я купіла шакаладныя пернікі. У адным з іх Хэнк знайшоў доўгую зрэбную нітку і болей есці не стаў. Шакаладныя пернікі з'еў сабака, а мой знаёмы здзівіўся: «А чаго яны не елі, нітка ж была, напэўна, з мешкавіны?»

Ці яшчэ. Соф'я ўзяла з сабой у дарогу бутэрброд з салямі. Вечарам запытала ў мяне: «Бутэрброд адляжаў у сумцы 9 гадзін, ці можна аддаць яго сабачку, ён не атруціцца»?

Што можна было адказаць? Упэўнена, што ім не атруціўся б любы беларус. Сабачка са смакам з'еў гасцінец, а я падумала: «Вось і на тваёй вуліцы свята, чацвераногі. Гэты пір каштаваў дзесяці год на прывязі».

Ці яшчэ. **Шчырыя беларусы гатовы накарміць гасцей, тым, што ёсць у хаце, а галандцы кормяць гасцей і ядуць самі тое, што любяць і што хочаць.**

Паміж намі і імі прамежак у добрага паўстагоддзя і гэта пацвердзіла паездка ў вёску.

Хэнк ніколі не бачыў рускай печы, нашых «тэфалей», жывых свіней, хляваў, нашых вясковых дарог... Ён быў уражаны тым, што пабачыў. Для яго старое даваеннае кіно ажыло ў жыцці беларускіх сялян на мяжы 3-цяга тысячагоддзя. Ледзь не плакаў ён, гледзячы на пакручаныя поліартрытам пальцы вясковай жанчыны, а на развітанне пацалаваў яе агрубелую, без паху духоў і манікюру руку, пацалаваў, напэўна, першы раз за ўсё яе жыццё, даўшы адчуць сялянцы, што ён пакланяецца перад ёй не як перад «советской труженицей», а як перад жанчынай, маці, бабуляй, прадаўжальніцай роду чалавечага.

## 7.

У 1996 годзе Соф'я і Хэнк жылі на віле непадалёку ад Рыма. Па-суседству, на гары, стаяў дом, дзе адпачываў папа Рымскі. Кожны дзень ён ездзіў у горад ля вілы Соф'і, а калі вяртаўся, яго чакалі веруючыя. Неяк раз падышла да натоўпу і Соф'я. Калі папа вылез з аўтамабіля, усе пачалі крычаць, вітаць яго, дарыць кветкі.

-- Мацней за ўсіх крычаў «Віват, папа»! нейкі француз,-- расказвала жанчына.- Я зазлавалася, што ён усіх перабівае і давай крычаць сама, што было сілы: «Сто лят»! Папа Рымскі пачуў польскую мову, знайшоў мяне ў натоўпе, падышоў, спытаў ці не яго я суседка, пагаварыў крыху і благаславіў... З гэтым благаслаўленнем і жыве Соф'я, дапамагаючы бліжнім сваім...

Соф'і 83 гады і ўсё ж яна спадзяецца, што яшчэ прыедзе на радзіму, зможа дакрануцца душой да роднай непаўторнай прыгажосці Беларусі...

*Галіна Сутула*

Па той бок мяжы

# Ад Маскоўскіх каманд да еўрапейскіх стандартаў

*Працяг, пачатак у №№15-16 (47-48) за ліпень 2000г.*

**Уладзімір Шык,**
*Паставы*

## 2. У барацьбе за волю



**На здымку:** *савецкая вайсковая тэхніка на вуліцах Вільні.*

Калі беларускіх журналістаў прымалі на літоўскім радыё і тэлебачанні, нам перш за ўсё паказалі створаны там музей. Пасля прагляду экспазіцыі быў прадстаўлены вялікі мікрафон, у які гаварыў «да народа» Сталін і ўжо не засталося сумнення, чаму такой моцнай і аднадушнай была воля большасці літоўцаў да незалежнасці і выхаду са склада Савецкага Саюза. Сотні тысяч людзей прыехалі ў пачатку 90-х у Вільнюс з усіх куткоў рэспублікі і жывой сцяной засланілі сваю бацькаўшчыну, родную сталіцу ад савецкіх танкаў.

У час тых гістарычных падзей, ноччу 13 студзеня 1991 года, памятаю, з якой трывогай я сачыў за сітуацыяй у Літве. Тады дэсантнікі, якімі камандаваў цяперашні намеснік міністра абароны Беларусі генерал Усхопчык, акрамя тэлевежы, Дома друку штурмавалі і аб'яднаны тэлерадыёцэнтр. За гісторыю існавання будынка тады яго бралі трэці раз. Спачатку ў 1940 годзе літоўскі радыёфонд захапіў СССР. Праз год там сталі гаспадарыць фашысты. Зімой 1991 года я бачыў па сваім тэлевізары, які прымае перадачы з Літвы, як груба і нахабна дзейнічалі савецкія войскі і КДБ, але сутнасць іх сітуацыі зразумеў толькі цяпер.

Захоп абодвух будынкаў тэлерадыёцэнтра пачаўся ў ноч з суботы на нядзелю каля дзвюх гадзін ночы. У цемры на вуліцы Канарскі пачуўся гул рухавікоў танкаў бронетранспарцёраў, грузавікоў, у якіх ехалі салдаты. Пад выстралы танкавых гармат, аўтаматныя чэргі і выбухі ўзрыўных пакетаў дэсантнікі дубінкамі, жалезнымі прутамі і прыкладамі аўтаматаў расчышчалі сабе дарогу праз натоўп мірных абаронцаў Дома радыё. Некалькі чалавек тады было паранена, пакоі РТВ і жылыя дамы побач былі абстраляны.

Уся краіна з хваляваннем назірала за прамым рэпартажам, які вялі дыктары радыё Бернадэта Лукашутэ і Альгімантас Садукас. Яны падрабязна расказвалі аб штурме і начных падзеях. Тое ж рабіла і тэлекаментатар Эгле Бучэлітэ. Яна працавала пакуль у яе замкнутую студыю не ўварваліся салдаты, прастрэліўшы масіўныя дзверы. Але нават пасля захопу студыі, з дапамогай перасоўнай тэлевізійнай станцыі супрацоўнікам удалося прадоўжыць трансляцыю з плошчы Незалежнасці.

Праз нейкі час, калі высотная тэлевежа была захоплена, трансляцыя перарвалася.

І тут, як ніколі яскрава, праявіўся нязломны характар літоўскага народа-барацьбіта. Пасля абрыву трансляцый з Вільнюса, праз 40 хвілін у эфір выйшаў Каунас і на шасці мовах свету перадаў інфармацыю аб захопе, выклікаўшы хвалю абурэння і пратэсту ў многіх краінах.

Трансляцыю радыёперадач на краіну ўдалося аднавіць менш чым праз двое сутак. Адбылося гэта, дзякуючы дапамозе арганізацый і грамадзян, якія прадставілі неабходныя памяшканні, дапамаглі апаратурай. Работнікі сувязі з Клайпеды прывезлі тэлеперадатчык і ўсталявілі яго ў будынку Вярхоўнага Савета. 17 студзеня трансляцыя тэлеперадач была аднoўлена.Будынак парламента армія штурмаваць не адважылася.





Вільня прыгожая і ўночы

Пасля захопу РТВ у Вільнюсе, трансляцыі ішлі з Каунаса, Шаўляя, Клайпеды, Панявежыса, дзе працавалі сталічныя работнікі. Ніводзін журналіст не згадзіўся працаваць на стаўленікаў прамаскоўскай Кампартыі Літвы (КПСС). «Спецыялістаў»-брахуноў, якія нешта плялі аб міфічных малодчыках «Саюдыса», аб неіснуючых складах зброі і выдуманых дэлегацыях рабочых, за добрыя грошы прывозілі з СССР. На самой жа справе штодзённа не спыняліся пратэсты грамадскасці супраць савецкіх захопнікаў, у тым ліку шматдзённыя галадоўкі пратэсту журналістаў і жыхароў Літвы. Таму пасля правалу жнівеньскага путча, літоўскі народ давёў да перамогі справу сваёй «пявучай рэвалюцыі».



Некалі Вільню звалі беларускай Меккай, куды пешшу шлі пілігрымы нават з Глыбокага. Ніколі яна не была адгарожана ад нас межамі. Але сёння рэаліі іншыя...

Пашкоджаныя аўтаматнымі і кулямётнымі стрэламі фасады будынкаў і дзверы студый рамантаваць не сталі, пакінулі для гісторыі. Сёння сюды водзяць экскурсіі школьнікаў, каб яны бачылі і даражылі зававанай незалежнасцю маладой краіны.

Пішу гэтыя радкі, а сам думаю: чаму мы, беларусы, такія раўнадушныя да свайго лёсу , сваёй краіны, якой нахабна гандлююць недалёкія палітыкі? Прыкра мне за многіх маіх калег з дзяржаўных сродкаў прапаганды, якія за добрыя аклады гатовы хлусіць народу, выдатна ведаючы, якая пагроза самастойнасці павісла над Беларуссю.

Для нашых суседзяў гэтага пытання больш не існуе. Як жыць далей, у якім накірунку развівацца літоўскі народ вырашыў раз і назаўсёды. Яны не баяцца «гнілога» Захаду і ўжо стварылі падмурак дзяржавы еўрапейска-капіталістычнага стандарту. Па ўзроўню жыцця і дэмакратычных свабод маленькая Літва апярэджвае не толькі нас, але і вялізную Расію, у якой просты люд усё чакае абяцанага дабрабыту. Рускія для літоўцаў зараз толькі далёкія суседзі, не болей. Аднак, апошнім часам палітыкі спецыяльна «падагрэлі» інтарэс да стасункаў з Усходам.

Як толькі літоўскія СМІ паведамілі, што Літва збіраецца спагнаць з Расіі, як правапераемніцы СССР, грошы за нанесены ў гады савецкай акупацыі ўрон, думкі ў грамадстве па гэтаму пытанню раздзяліліся. Людзі ўжо прызвычаіліся да свабоды слова і не баяцца выказвацца публічна. Ды і сума выстаўленага Расіі рахунка здольна зацікавіць кожнага.



**На здымку:** *Вільня. Мост над ракой Нярыс (Віліяй).*

Як паведаміла газета «Летувос айдас»(«Рэха Літвы»), Літоўскі цэнтр генацыду і рэзістэнцыі падлічыў, што за гады савецкага кіравання іх краіне нанесены ўрон у памеры 377 млрд. долараў. Пры гадавым літоўскім валавым прадукце ў 11-12 млрд. долараў, гэтай сумы хапіла б, каб бязбедна пражыць 33 гады.

Член камітэта Сейма па нацыянальнай бяспецы і абароне, лідэр дэмакратычнай партыі Літвы Саулюс Печулініс пацвердзіў мне намер арганізаваць перамовы, з якіх будзе бачна ці з'яўляецца Расія прававой дзяржавай і ці прытрымліваецца яна міжнароднага права. Зразумела, што ўсходняя суседка яшчэ доўга не здолее выплаціць такую суму, але пэўную частку грошай Літва проста даруе ўзамен на абавязацельствы не рабіць падобных дзеянняў з уводам сваіх войск у чужую краіну.

Аўтар прынятага закона, які абавязвае ўрад пачаць перамовы з Расіяй, спікер парламента Вітаўтас Ландсбергіс палічыў, што цяпер найлепшы час для рэалізацыі вынікаў рэферэндума 14 чэрвеня 1992 года, на якім грамадзяне Літвы запатрабавалі кампенсаваць страты, якія нанёс СССР за 50 гадоў панавання ў краіне. Па яго словах, Расія прызнала і асудзіла факт анексіі Літвы. Гэты дакумент быў падпісаны Б. Ельцыным, ратыфікаваны Дзярждумай, а таму літоўцам не трэба саромецца спаганяць свае грошы.

У Літве за прыняцце закона прагаласавалі 68 дэпутатаў, 16 чалавек устрымаліся, супраць не прагаласаваў ніхто.

І ўсё ж многія літоўцы незадаволены дзейнасцю цяперашняга ўрада кансерватараў, бо ўбачылі ў гэтай акцыі спробу «падражніць» рускага мядзведзя і адцягнуць увагу грамадскасці ад эканамічных праблем напярэдадні восеньскіх выбараў у Сейм. Многія гавораць, што чапаць Расію не трэба, бо пасля 1939 года Літва павялічыла сваю тэрыторыю, атрымаўшы ў «падарунак» ад Сталіна Вільнюскі і Клайпедскі край. Ёсць думкі, што калі ў 1996 годзе кансерватары з партыі Ландсбергіса прыйшлі да ўлады, дзяржаўны доўг краіны складаў 1,4 млн. долараў. Пасля ж заканчэння тэрміну праўлення, доўг, перададзены ў «пасаг» новаму ўраду, складзе 3,5 млрд. долараў. Гэтага літоўскія грамадзяне на выбарах ураду не даруюць.

Сёння настрой у грамадстве такі, што хто б з чатырох асноўных палітычных блокаў не прыйшоў да ўлады, яны, не шкадуючы сумесных намаганняў, будуць дабівацца членства Літвы ў Еўрапейскім саюзе і НАТА.

*Працяг будзе*

Сафія Табола, в. Заазерцы, Шаркоўшчынскі раён

Апавяданне

*Прысвячаю маёй цёці Дзянісавай Ірыне Восіпаўне*

# МАРЫЛЯ



Вёска Леснікі стаяла на паляне сярод высокіх векавых дрэў. Паповы жылі тут спрадвеку, яшчэ іх прадзед купіў у гэтых мясцінах зямлю і невялікі ўчастак лесу. Зямля і лес кармілі, і хоць сям'я была шматлікай, жылі моцна, дружна, працавалі ў згодзе, дапамагалі адзін аднаму. Старэйшая сястра Марыля пераняньчыла па чарзе шэсць братоў і дзвюх сясцёр. Усе яны выраслі, браты пажаніліся, сёстры таксама мелі свае сем'і, а Марыля засталася адна. Замуж яна не выйшла. Ісці абы за каго не захацела, а каханне сваё, мабыць, не сустрэла. Так і жыла ў старэнькай бацькоўскай хаце. Браты і сёстры жылі побач, і яна дапамагала гадаваць ужо пляменнікаў. У сям'і ўсе любілі Марылю за дабрыню і цярплівасць, за нейкую найвышэйшую жыццёвую мудрасць, якой яна была надзелена ад Бога. Калі пачалася вайна, Марылі было ўжо 64 гады. Баёў па блізу не было, але напрыканцы лета ў вёску прыехаў нямецкі афіцэр з салдатамі, прызначыў старастам мясцовага мужыка і вызначыў колькасць падаткаў на вёску, мясам ды зернем. А на сценах дамоў салдаты панаклеілі розных загадаў -- усе яны заканчваліся словамі «расстрэл».

Параіўшыся, вяскоўцы вырашылі спраўна выплаціць тыя падаткі, хоць і не малыя яны былі, ды ад граху падалей, вырашылі не пярэчыць новай уладзе. Адправілі ў пачатку восені падводы ў Глыбокае (там была камендатура), і немцы больш не заглядвалі. Вёска жыла сціпла, займаючыся звычайнымі сямейнымі справамі і клопатамі.

Але жыццё працягвалася: прыйшлося і леснікоўцам ехаць у Глыбокае, купляць ці вымяньваць неабходныя газу, запалкі, соль -- без гэтага пражыць было нельга. Аднойчы і Марыля з братам паехала на кірмаш. Яны ўжо чулі, што каля Глыбокага, ў Беразвеччы, немцы зрабілі лагер для ваеннапалонных, а ў цэнтры горада гета для яўрэяў. З нейкім жудасным страхам гаварылі пра гэта людзі. Але тое, што ўбачыла Марыля, едучы на вазку каля калючага дроту, прымусіла яе здрыгануцца. Быў ужо канец кастрычніка 1941 года. Дні стаялі халодныя, ноччу добра падмаражвала. А за дротам знясіленыя, у лахманах людзі. Кара на рэдкіх дрэвах была абгрызена ў рост чалавека. Дрот цягнуўся ўздоўж дарогі. Фашысты не хавалі сваёй страшнай сутнасці, мабыць, дзеля таго, каб запужаць насельніцтва. Да агароджы набліжацца забаранялася, але людзі адважваліся кідаць праз дрот хоць якую-ежу няшчасным вязням. Гэта было небяспечна, фашысты стралялі і па тых хто кідаў, і па тых, хто падбіраў за дротам.



Графіка У. Шчэрбы

На кірмашы Марыля выменяла на валёнкі солі і газы, і яны з братам паехалі дамоў. І вось яны зноў едуць каля гета. Марыля злезла з возу і пайшла следам. Потым хутка падышла да дроту, бо заўважыла жанчыну, якая паўзла з другога боку да яе. Ахоўнікаў, на шчасце, блізка не было. Марыля нахілілася, каб падаць жанчыне хлеб з салам, што яны бралі з сабой у дарогу, але тая стала прапіхваць пад дрот нейкі скрутак. У вачах жанчыны былі і адчай, і мальба адначасова. Яшчэ не разумеючы што гэта, Марыля ўзяла скрутак і захінула пад кажушок. Зусім недалёка сытыя, п'яныя фашысты штосьці гаманілі, але Марыля была ўжо на павозцы, і яны нічога не заўважылі. Мабыць, у гэты час яны светкавалі чарговую перамогу, бо на рынку Марыля чула, што фашысты хваляцца, нібыта яны разглядаюць Маскву ў бінокль.

Ад'ехаўшыся ад лагера, Марыля разгарнула лахмоцце скрутка і ўбачыла дзіця. Яна зняла кофту, адарвала кавалак споднай кашулі, спавіла дзіця і зноў схавала пад кажушок, каб сагрэць сваім цяплом. Брат усё зразумеў, хоць і не бачыў, што было ў скрутку. Так яны і прыехалі ў вёску. Марыля злезла каля сваёй хаты, а брат паехаў, бо ён жыў крыху далей.

У хаце Марыля разгарнула дзіця. Гэта была дзяўчынка, зусім маленькая, мабыць, яна нарадзілася ў гета: цёмненькія вочкі, чарняны пушок курчавенькіх валасоў на галоўцы... Дзіця было зусім слабае, нават не плакала. Жанчына з хвілінку паглядзела на дзяўчынку і пачала завіхацца каля яе.

А ў гэты час яе брат спешна збіраў сям'ю на раду, бо словы «яўрэй» і «расстрэл» у фашысцкіх загадах заўсёды стаялі побач. Доўга спрачаліся браты і сёстры і вырашылі, што пакідаць дзіця ў Марылі небяспечна. «Трэба куды-небудзь яго адвезці,-- вырашыла радня і пакінуць, хай яму дапаможа Бог».

Надвячоркам старэйшы брат прыйшоў да Марылі, каб сказаць аб рашэнні сям'і. Нетаропка зайшоў у хату,сеў на лаву. Марыля трымала немаўлятка на руках. Яна ўжо пакупала дзяўчынку, загарнула ў ільняныя пялёнкі з саматканай прасціны і пакарміла казіным малаком.

Глянула на брата і адразу зразумела чаго ён прыйшоў. Апярэдзіла, ціха сказаўшы: «Калі баіцёся, не прыходзьце да мяне, ніхто». Брат зразумеў, што гаварыць ёй нічога няварта.

Так у Лесніках з'явіўся новы жыхар -- дзяўчынка Лілечка, прыёмная дачка Марылі. Здаецца, уся сям'я трымала гэта ў сакрэце, але хутка ў вёсцы сталі ціха пагаворваць, што Марыля хавае маленькую яўрэйку. І чамусьці так атрымоўвалася, што калі ў вёску заглядвалі чужыя, дзеці перш за ўсё дакладвалі пра гэта Марылі. І калі гэта былі паліцаі, іх абавязкова запрашалі ў якую-небудзь хату (падалей ад Марылі), частавалі саматужніцай, ды так, што тыя забываліся чаго прыязджалі ў вёску. Але такія «візіты» былі рэдкімі і маленькая Лілечка расла-падрастала. Марыля пільна хавала яе ад людскіх вачэй. А час ішоў. І сталі даходзіць у лясную вёску чуткі, што Масква не здалася, выстаяла, што трымаецца Ленінград, і фашысты не трубяць ужо пра перамогі, маўчаць, бо топчуцца на месцы.

Аднойчы, нібы незнарок, жанчыны каля студні сказалі Марылі, што фашысты знішчылі гета ў Глыбокім. Марыля прамаўчала, толькі пасля гэтай размовы бачылі, што малілася яна ў царкве...

Надышоў 1944-ы год. І хоць далёка, але чуваць ужо была артылерыйская кананада, і самалёты часта пралятали, ужо свае. Фронт быў на беларускай зямлі.

А фашысты звярэлі. Пасля яўрэяў дайшла чарга і да беларусаў. Палілі карнікі вёскі разам з людзьмі. І калі недалёка ад Леснікоў спалілі вёску, Марыля, якая, здавалася, прамаўчала ўсю вайну, угаварыла родных і аднавяскоўцаў схавацца ў лясных балотах. І хоць некаторыя сумняваліся: «За што нас паліць?», Марыля пераконвала: «Не верце, я сама бачыла, яны горшыя за звяроў».

Карнікі ў Лесніках нікога не знайшлі, абрабавалі хаты і падпалілі. Здалёк бачылі леснікоўцы зарыва над роднай вёскай і ў думках дзякавалі Марылю. Праз некаторы час вярнуліся на папялішчы. А хутка прыйшла доўгачаканая вестка, што няма больш немцаў у Глыбокім -- уцяклі. Следам прыйшла Чырвоная армія. І калі праводзілі леснікоўскіх мужчын на фронт, першы раз пратопала, не хаваючыся, маленькая Лілечка за руку з мамай па вёсцы.

А вёска пачала адбудоўвацца. Браты і суседзі збудавалі Марылі новую хату. А калі Лілечцы споўнілася 7 гадоў, Марыля завяла яе ў школу. Вучылася Лілечка выдатна. Цешылася ёй Марыля. Дачка і маці вельмі любілі адна адну.

Ніхто не ведае хто і калі расказаў Лілечцы яе гісторыю, але аднойчы дзяўчынка (было ёй ужо гадоў дванаццаць) абняла Марылю і ціха папрасіла: «Мамачка,завязі мяне ў Глыбокае». У адну з нядзель глыбачане ўбачылі каля магілы, дзе былі пахаваны пакутнікі-яўрэі, пажылую ўжо жанчыну і дзяўчынку, якія, запаліўшы свечкі, маліліся.

Бог даў Марылі доўгі век. Яна пайшла з жыцця на сотым годзе. Адышла ціха, спакойна, упэўненая ў бязмежнай любві дачкі, зяця, трох унукаў і шматлікай радні. На пахаванне прыйшлі ўсе леснікоўцы і жыхары навакольных вёсак. Паўтара кіламетра, зменьваючы адзін аднаго, труну з целам жанчыны аднавяскоўцы да могілак неслі на руках.

На помніку Лілечка зрабіла кароткі надпіс «Маёй маме...».

Медыцына

## Пакуль сядзеў у чарзе

Хварэць -- не жаніцца, прыемнасць невялікая. І калі па сённяшнім часе можна абыходзіцца і без жонкі, то без хвароб, мусіць, не жыве ніводзін. Не хочуць беды пакідаць Беларусь. А як вядома, бяда заўсёды ходзіць па людзях -- пакутуем мы. Захварэў і я. Пасля ліквідацыі на Чарнобыльскай АЭС, дзе давялося ўдзельнічаць, «болек» з'явілася шмат. Але гаворка не пра іх, а пра ўрачоў, якія нас лечаць. Адправілі мяне на «тэлевізар», ныркі пагледзець. Чарга на тое УЗІ на паўтара месяца наперад. Не дзіва, у паліклініцы працуюць усяго два спецыялісты (трэці спецыялізуецца па гінекалогіі). Справа пайшла б хутчэй, каб усе назначаныя на пэўны дзень размяркоўваліся па двух кабінетах УЗІ па роўну. Але да жанчыны чарга чамусьці ўдвая большая, а да мужчыны -- адзін, два і ўсё. Выйдзе той у калідор, зазаве ледзь не сілай і зноў ніхто не ідзе. А да жанчыны просяцца. Такі ж хворы, што сядзеў на «тэлевізар» заўважыў: «Гэны доктар усім піша пясок у почках». Як у тым анекдоце: «Доктар, скажыце дзе ў мяне гліна і камені, і я пачну будавацца».А як па зарплату пойдуць, і ён, і яна атрымоюць па-роўну. Другі пацыент, што скурчыўшыся чакаў ласкі доктара, бо не быў назначаны, дадаў: «Трэба рабіць медыцыну платнай. Афіцыйна. Нашто б я мучыўся цэлы дзень ды дакучаў дакторцы, калі б мог за грошы прайсці агляд без чаргі. Можа яно і так, толькі невядома ці хапіла б у нас тых грошай, каб заплаціць за такую «цывілізацыю».

Жанчына, што ўключылася ў гаворку, падтрымала пачатую тэму: «А што думаеце доктару добра? Прымі ты за дзве гадзіны чалавек 20 -- алунееш. Я ў Мінску ляжала і там на «тэлевізар» хадзіла». Там строга па часе. Напісана ў 10, значыць, у столькі і прымуць. Глядзяць добра, хвілін 15--20, але пасля ў доктара 20--30 хвілін перапынак. Гэты ж апарат радыяцыю, кажуць, дае... Але ў медыцыне толку няма. У мяне нявестка ў гэтай сістэме. Зарабляе 33 тысячы. Дзень на прыёме, вечарам заступае ў ноч, дзяжурыць, днём зноў на прыёме. Гэта ж паспрабуй, вытрывай. Хворыя -- людзі нервовыя. Калі не начальства, дык яны аблаюць. Нам, хворым, вядома, да начальніцкіх капрызаў справы няма, але ж клопат пра людзей ён пры любой уладзе патрэбен. Дабрыня і павага лечаць, часам, лепш за ўсякія лекі.

Што датычыць урача Вартанавай, якая працуе на адным з «тэлевізараў», то яна па-чалавечы разумее ўсіх, нікому не можа адмовіць, стараецца памагчы і ва ўрон свайму здароўю замест вызначанай колькасці хворых прымае разы ў два больш. У разумнай дзяржаве такому б урачу і плаціці адпаведна, і падтрымлівалі б і стваралі належныя ўмовы для працы. Наша ж дзяржава ні пра ўрачоў, ні пра хворых надта не дбае.

*З павагай Ф. Сямковіч*
*г.Глыбокае*

## Вярнуўся з таго свету

Неверагодны па драматызму выпадак са шчаслівым для трохгадовага Антона зыходам разгортваўся днямі на працягу васьмі гадзін у Расонскім раёне. Не паспелі хлапчука прывезці з Наваполацка да бабулі ў вёску Лазарава, як ён сышоў з двара і трапіў у сажалку. На шчасце, крык аб дапамозе пачулі начальнік аварыйна-дыспетчарскай службы ўпраўлення «Полацкгаз» Уладзімір Марчанка і старшы памочнік начальніка службы пажаратушэння аварыйна-выратавальнага атрада №1 па ахове ВА «Нафтан» Мікалай Наркевіч, якія адпачывалі ў вёсцы.

Вопытныя спецыялісты не толькі адшукалі цельца хлопчыка на дне валаёма, але і на працягу 17 хвілін рабілі малому штучнае дыханне, пакуль не ажывілі яго. На сваім аўтамабілі выратавальнікі павезлі дзіця ў райбальніцу, працягваючы змагацца за лёс хлопчыка. Да поўначы персаналу клінікі канчаткова ўдалося адвесці смяртэльную небяспеку. Агульнымі намаганнямі выратавальнікі і медыкі вярнулі Антона з кіпцюроў смерці.

*Уладзімір Шытаў*

# ТУТ МАГЛА БЫЦЬ ТВАЯ РЭКЛАМА!



А пакуль рэкламу робіць сама матуля-прырода. Гэты грыб-велікан знойдзены ў мясцовасці Лупачэва, непадалёк ад стайні ля вёскі Завараты Глыбоцкага раёна. У рэдакцыю газеты цуда-знаходку прывезлі нашы добраахвотныя распаўсюджвальнікі Зміцер Лупач і Зміцер Курцэвіч.

Тут гэтае дзіва мы і сфатаграфавалі.



Рэха падзеі

## Грунвальд у нашай гісторыі

15 ліпеня гэтага года споўнілася 590 гадоў з таго часу, калі адбылася Грунвальдская бітва, вырашальная бітва, «Вялікая вайна» 1409-1411 гадоў паміж Вялікім княствам Літоўскім і Польшчай з аднаго боку і Тэўтонскім ордэнам з другога. Гэта бітва мела вялікае гістарычнае значэнне: Вялікае княства Літоўскае, дзяржава нашых продкаў, атрымала выхад да Балтыйскага мора; войска крыжакоў было разгромлена, і з той пары пачаўся заняпад Тэўтонскага ордэна. Пасля гэтай бітвы, больш як пяцьсот гадоў нага ўзброенага немца не ступала на нашы землі.

Але ў савецкія часы пра гэтую бітву па вядомых прычынах амаль не ўспаміналася. Цяперашняе кіраўніцтва Беларусі працягвае ганебную традыцыю. Вось і сёлета на святкаванне слаўнай гадавіны прыехалі прэзідэнты Польшчы і Літвы, а беларускага кіраўніка не было. Амаль не ўспаміналася гэтая дата ў афіцыйным друку. А беларусы ж складалі тады большую частку ў аб'яднаным войску двух дзяржаў.

15 ліпеня гэтага года ў Грунвальдзе адбылося святкаванне 590-ых угодкаў бітвы. На свята сабралася 50 тысяч гледачоў і каля тысячы рыцараў з рыцарскіх клубаў розных краін, якія правялі інсцэніроўку бітвы. 50 рыцараў было і з беларускіх рыцарскіх клубаў. Хочацца верыць, што ў будучым колькасць беларускіх рыцараў будзе ўзрастаць, і ў наступным годзе мы зможам убачыць там прадстаўнікоў створанага і ў Глыбокім рыцарскага клуба.

*З. Лупач*

*в. Деркаўшчына, Глыбоцкага раёна*

## БЯСПЛАТНЫЯ ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

### ВЫПІСВАЙЦЕ ГАЗЕТУ ТБМ «НАША СЛОВА»

Для гэтага Вам неабходна напісаць свой адрас на бланку і аплаціць падпіску на пошце.

«Наша слова» выходзіць штотыдня

(індэкс 63865)

Кожны, хто падпішацца на II паўгоддзе і пакажа (альбо дашле на адрас Сядзібы ТБМ: №13, вул. Румянцава, 2220005, Мінск) падпісны квіток, атрымае ў падарунак добрую кнігу на беларускай мове.

**БЕЛАРУСКУЮ ГАЗЕТУ -- КОЖНАЙ СЯМ'І!**

***

**Прадаецца хата ў вёсцы Завараты.**

Ёсць студня, сад, хлеў. Кошт па дамове.

Звяртацца на адрас: Глыбоцкі раён, 211821, п/а Дзеркаўшчына, в. Латыголь, Лупач Уладзімір Зыгфрыдавіч.

***

Прадаецца BMW-525 Турба-дызель, 1983 года выпуску ў добрым стане, рухавік 1990 года. Цэнтральны замок, люк, гідраўзмацняльнік руля. Расход паліва -- 7 л. на 100 км.

Кошт па дамове. Тэлефанаваць у Глыбокім 2 37 54.

***

Шукаю сяброў, аднадумцаў, якія цікавяцца экалогіяй, прыродай і гісторыяй роднага краю для правядзення сумесных экспедыцый і даследванняў Глыбоччыны і ўсяго паўночнага захаду Беларусі.

Пісаць на адрас: Зміцер Лупач, в. Заваратры, 211821, п/а Дзеркаўшчына, Глыбоцкі раён.

***

Прадам або абмяняю коней на аўтамашыну «Жыгулі»

Пісаць на адрас: Феакціст Фядотаў, в. Дубняні, Вароніцкі сельсавет, Полацкі раён або тэлефанаваць у Наваполацк па нумары 8-(244) 2 85 18 з $20^{00}$ да $21^{00}$.

***

Будую хаты, гаражы, хлявы, падмуркі, платы з каменя Тэл.: 2 37 54 (у Глыбокім)

***

**Тэрмінова прадаецца**

легкавы дызельны аўтамабіль

Mitsubishi -- Colt 1986 г. выпуска. Пяціступеньчатая КПП, аб'ём рухавіка 1,8. Звяртацца па тэлефоне 2 12 74 (у Глыбокім).

***

Жадаючыя атрымаць новую кнігу славутага Міколы Ермаловіча «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае» дашліце замову, свой дакладны адрас і 2200 рублёў Алесю Міхайлавічу Сабаленка, п/с 268, 220131, Мінск-131. Кнігу атрымаеце праз пошту. У Мінску кнігу можна набыць ў сядзібе Таварыства беларускай мовы: Мінск, вул. Румянцава, 13.



*З павагай Алесь Сабаленка*

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**У рэдакцыі газеты «Витебский курьер» будзе працаваць «прамая лінія».**

Кожны аўторак з $17^{00}$ да $18^{00}$ па тэлефоне 37 76 82 Вы зможаце звярнуцца да прадстаўніка Беларускага Хельсінскага камітэта з інфармацыяй аб парушэнні Вашых грамадзянскіх правоў. Усе антыканстытуцыйныя факты будуць зафіксаваны, а Вы зможаце атрымаць кансультацыю.

**По праблемах парушэння правоў чалавека Вы зможаце звяртацца і па тэлефонах 2 37 54 ў Глыбокім, 2 14 28 у Браславе, 2 31 11 у вёсцы Заазерцы Шаркоўшчынскага раёна, 2 27 58 у Паставах.**




Да 2000-годдзя хрысціянства

Страшная бяда, калі чалавек зачараваны сабой, ганарыцца сваімі здольнасцямі, дараваннямі і прыроднымі якасцямі: Гасподзь адыме іх у пакаранне за гонар.

*Старэц Амвросій Опцінскі*

Бог даў законы жыцця і карае за іх парушэнне.

*Св. Грыгорый Багаслоў*

Рабі тое, што годна ўзнагароды, але не шукай онай.

Бойся больш Бога і мук вечных, чым людзей і кароткачасовай злосці.

*Святы Іаан Златаўст*

Як на вайне цэляць у жывых салдат, так і мір нападае на жывых хрысціян. Мір не нападае на нас так дружна і горача, калі не ўбачыць у нас поўную супрацьлегласць сабе.

*Святы Іаан Златаўст*

За капрызы чалавек атрымоўвае кару праз хваробы.

*Святы Ціхан Задонскі*

Хто жыве па-гультайску, той ўвесь час грашыць.

*старэц Амвросій Опцінскі*

Мы не будзем баяцца смерці цялеснай, калі не баяліся пры жыцці смерці духоўнай.

*старэц Парфеній*

**На дэсерт**

### Торт без выпечкі з зефіра

Зефір раздзяліць на палавінкі. Зварыць крэм: яйкі, пячэнне, цукар расцерці, заліць малаком і, ўвесь час перамешваючы,варыць да гусціні, не даваючы кіпець. Астудзіць, уцерці масла, дадаць лімонную цэдру. У форму, засланую пергаментам, пакласці зефір, змазаць крэмам, затым зноў зефір і крэм і г.д да патрэбнай вышыні. Упрыгожыць торт арэхамі і пячэннем. Паставіць у халадзільнік на 2 дні. Ён будзе заставацца свежым на працягу тыдня.

1 кг зефіру ці пасцілы, 100г. пячэння, 2 яйкі, 1,5 стакана цукру, 200г. масла, цэдра 1/2 лімона, 1 стакан малака. Для абсыпкі 100г. арэхаў.

### Торт народны

Расцерці да белага жаўткі з цукрам, паступова ўліць астуджанае масла, усыпаць 1,5 пачкі дзіцячай мукі, пакласці дрожджы ці соду, увесь час перамешваючы, уліць пашіху крыху ўзбітыя бялкі. Усё перамешваюць. 2/3 цеста раскачаць пластом і пакласці на змазаную маслам і пасыпаную сухарамі патэльню ці форму. Астатак цеста змяшаць з 1/2 пачкі дзіцячай мукі і пакласці на холад.

Для начынкі расцерці журавіны з цукрам і пакласці на корж. Ахалоджаную частку цеста нацерці на тарцы (дадаць рубленых арэхаў) і пакрыць начынку. Упрыгожыць торт ягадамі парэчак з варэння, журавінамі, арэхамі, цукатамі.

Для цеста: 2 яйкі, 1 стакан цукру, 200 грам масла, 2 пачкі дзіцячай мукі, 1 сталовую лыжку дражджэй ці 1/2 ч. лыжкі соды.

Для начынкі: 1,5 стакана журавін, 1 стакан цукру, 1,2 стакана арэхаў.




Здарэнне на дарозе Дзеркаўшчына -- Лаўцы.
*Фота Ул. Скрабатуна*

**Набывайце «Вольнае Глыбокае» ў кіёсках «Саюздруку»!**


*«ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ»*
Незалежная рэгіянальная газета.
Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №1099, выдадзена Дзяржаўным Камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 года

Газета выходзіць два разы на месяц. Аб'ём -- 2 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 1 жніўня 2000 года ў 13-30.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Юрыдычны адрас: 211800, г. Глыбокае, вул. Маскоўская, 121

Тэлефон: 23754 (Галіна СУТУЛА)

Наклад 1000 паасобнікаў

Адрас для допісаў: 211800, г. Глыбокае, вул. Валадарскага, 67.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк. вул. Блахіна, 26 Замова 45 72